


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета




30 лістапада 2001 года

№ 48 (345)
Выходзіць па пятніцах

## Навіны рэгіёна

### Школьнікі ідуць па дровы

ВАЛОЖЫН. Мясцовы аддзел адукацыі даў распараджэнне ўсім тэхнічным работнікам Каменскай, Дорскай, Падбярэзскай і Багданаўскай школ "ісці ў лес па дровы". Аўтапарк №14 забяспечвае "дрывасекаў" транспартам.
Гэта зроблена, каб зэканоміць ужо нарыхтаваныя 188 тон вугалю і 620 тон брыкету да моцных маразоў. Пакуль школьныя кацельні працуюць на цвёрдым паліве.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Дом культуры «закрыюць»

МАЛАДЗЕЧНА. У снежні заказчык будаўніцтва Дома культуры "УКБ-Сервіс" абяцае ліквідаваць запазычанасць перад падрадчыкам у 190 мільёнаў.
Акрамя гэтага, плануецца дадатковае фінансаванне. На гэтыя грошы пусцяць цяпло і закрыюць будынак. На мове будаўнікоў гэта значыць, што ўставяць вокны і дзверы. У лістападзе ў "клубную" частку Дома культуры правялі батарэі.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

### Прыехаў у госці – і патануў

МЯДЗЕЛ. У Крывічах, у балоце ля Сэрвачы знайшлі труп студэнта-другакурсніка Гродзенскага універсітэта. Ён не мясцовы, прыехаў да сяброў у госці. Пайшлі на дыскатэку, выпіў. Пэўна, заблудзіўся, трапіў у балота і не змог з яго выбрацца.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Узнагароджваюць кіраўнікоў

На мінулым тыдні медалём "За працоўныя заслугі" узнагароджаны старшыня Валожынскага райвыканкома **Валянцін Малішэўскі**. А падзяку за плённую працу ў органах дзяржаўнага кіравання і добрасумленнае выкананне службовых абавязкаў атрымалі дэпутат Палаты прадстаўнікоў ад Вілейскай акругі **Ігар Баслык** і былы старшыня Маладзечанскага райвыканкома, а цяпер намеснік старшыні Мінскага аблвыканкома **Леанід Заяц**.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

### Бясплатная юрыдычная дапамога

ВІЛЕЙКА. Сёння любы жыхар раёна можа атрымаць бясплатную юрыдычную дапамогу. Грамадскае аб'яднанне "Беларускі рэспубліканскі саюз юрыстаў" праводзіць акцыю з нагоды Дня юрыста. Па дапамогу можна звяртацца з 9 да 15 гадзін у кабінет юрысконсульта ў райвыканкоме.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Замыкайце дзверы

МАЛАДЗЕЧНА. 27 лістапада каля 19 гадзін трое невядомых у масках зайшлі ў незачыненыя дзверы прыватнага дома ў Чысці. Яны звязалі гаспадыню дома, пагражаючы ёй нажом, узялі 150 тысяч рублёў, залатое кальцо і магнітафон. Затым зніклі.
Работнікі міліцыі, што займаюцца гэтай справай, мяркуюць знайсці рабаўнікоў у трохдзённы тэрмін.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**



### Адмена цягнікоў



3, 4 снежня адмяняецца электрацягнік Маладзечна-Мінск адпраўленнем з Маладзечна ў 10-58, 13-54, прыбыццём у Маладзечна ў 11-49, 14-14.

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 1 снежня

**Мінск**
-11 – -8°C (уначы)
-5 – -2°C (удзень)



**Вільня**
-8°C (уначы)
-1°C (удзень)



Нядзеля, 2 снежня

**Мінск**
-10 – -9°C (уначы)
-5 – -3°C (удзень)



**Вільня**
-10°C (уначы)
-3°C (удзень)



# «Бізон» Грынкевіча не падвёў

**СМАРГОНЬ. Польская фірма «Бізон» уручае прэміі тым, хто больш за ўсіх у сезоне намалоціць збожжа на камбайнах іх вытворчасці. Смаргонец Іосіф Грынкевіч атрымаў днямі першую прэмію «Бізона» – відэакамеру.**

Увогуле, сёлетні год камбайнер сельгастэхнікі называе ўдалым для сябе. Па выніках жніва ён атрымаў россып прызоў.

– Фактычна, у мяне ўсё ёсць, акрамя кватэры: дача, машына, гараж. Жывем з жонкай у інтэрнаце і марым купіць кватэру.

**– У бліжэйшыя гады гэта рэальна?**

– Пастараемся. Будзем працаваць – купім, не будзем працаваць – не купім. У мае гады сорамна жыць у інтэрнаце. Раней стаяў у чарзе на кааператыўную кватэру, але трэба даплачваць тысячу долараў, а такіх грошай на той час не было.

**– Можа просты чалавек самастойна выбіцца ў людзі?**

– Можа, калі будзе працаваць і не будзе піць. Хаця цяпер цяжкі час, і простыя рабацягі сітуацыю ў краіне не зменяць. Вы не курыце? (Закурыў)

**– Не. Кінуць курыць не спрабавалі?**

– Не п'ю, але курыць – куру і кінуць не спрабаваў. Гарэлку сёлета піў два разы: у сакавіку на дзень нараджэння жонкі і пасля "Дажынак" у Мазыры.

**– На "Дажынках" вы атрымалі халадзільнік.**

– У рэспубліканскім спаборніцтве сярод камбайнераў я заняў другое месца. За што і атрымаў халадзільнік, а мой памочнік **Аляксандр Харужык** – тэлевізар. Увогуле, там прыгожа было, прынялі, як людзей. Было і выпіць, і закусіць.

**– Як дасягнулі такога выніку?**

– Працавалі суткамі. За лета спаў не больш за 4–5 гадзін у суткі.

**– Гэта ж цяжка?**

– Вядома. Ды і гады ўжо – хутка пяць дзесяткаў будзе. Яшчэ да арміі мы з памочнікам суткамі працавалі. Была толькі гадзіна на абед і ўсё.

**– Калі параўнаць той час і цяперашні. Калі жылося лепш?**

– Раней час быў весялейшы, ды і жылі людзі не горш. На сяле было больш моладзі, і яна не была такая разбэшчаная. Засталіся больш-менш нармальныя толькі цэнтры калгасаў і саўгасаў.

**– Чаму так атрымалася?**

– А раней як было? Прыйшоў з арміі – і ў горад.

**– Там сваю змену адпрацуеш і ўсё.**

– Так. А на сяле працуеш круглыя суткі і без выхадных.

**– Не хацелася кінуць гэтую работу?**

– Я камбайн не кіну. Пакуль будзе здароўе, буду працаваць. Я ў сельгастэхніцы самы стары камбайнер.

**– Самы дасведчаны?**

– Самы стары па гадах.

**– Вы бываеце ў вёсках. Там больш працуеце побач з калгаснікамі. Не перавяліся на сяле працавітыя мужыкі?**

– Не. Толькі надта замінае ў рабоце гарэлка. Гэта самы галоўны вораг. Раней так не пілі.

**– У большасці людзей лета – гэта час адпачынку.**

– Летам мы працуем. Асноўныя грошы мы зарабляем на ўборцы. Сёлета няблага папрацаваў, сам задаволены і дома задаволеныя. Адпачываем зімой. А летам яшчэ і дача. Люблю я капацца ў зямлі. Эх, можна было б узяць зямлю, стаць фермерам, але пазнавата, гады ўжо не тыя.

**– З жонкай як пазнаёміліся?**

– Я ведаю яе з 1974 года, яшчэ да арміі. Але сышліся з ёй пасля.

**– Прымяненне відэакамеры знойдзеце?**

– Зразумела. Хутка лета, тады і знойдзем. Толькі трэба яе занесці да спецыяліста, каб сабраць.

**– Раней у вас былі падобныя поспехі?**

– Не. У нас былі камбайнеры больш дасведчаныя, родам з Кубані. Дзякую свайму настаўніку, з якім працаваў свой другі сезон у жыцці, – **Віктару Пазябкіну**. Гэта быў 1971 год. Цяпер ён на пенсіі, жыве ў Сіньках.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



**Іосіф Грынкевіч. Нарадзіўся 20 чэрвеня 1955 года ў вёсцы Сінькі, на Смаргоншчыне. У 1974 годзе скончыў Жыровіцкі тэхнікум. Па спецыяльнасці – тэхнік-механік. Пасля службы ў арміі працаваў у калгасе. З 1978 года працуе ў сельгастэхніцы. Жонка Галіна працуе галоўным бухгалтарам у прыватнай фірме.**

Экспрэс-апытанне

# Што чакаеце ад снежня?



**Руслан Хаменка, навучэнец палітэхнікума:**
– Чакаю Новы год. Яшчэ не ўсё зрабіў, што планаваў. Хацелася б паспяхова скончыць семестр.

**Марына Захарэвіч, швачка:**
– Усё зроблена. Пажадана, каб быў навагодні настрой і ўсе жылі лепш, чым у гэтым годзе.



**Сяргей Палышанкоў, служачы:**
– Я чакаю клопаты. Яны будуць звязаныя з сустрэчай Новага года і Калядаў, як праваслаўных, так і каталіцкіх.

**Сяргей Лазар, пенсіянер:**
– Рыхтуюся да Новага года, які сустрэну па-старэчы – дома, з сям'ёй.



**Галіна Ганіч, пенсіянерка:**
– Адчуваю ўнутраную прыгнечанасць. Хочацца паляпшэнняў для пенсіянераў. Каб менш было на вуліцах людзей, якім патрэбная матэрыяльная дапамога і якія капаюцца на сметніках.



**Віталь Васілеўскі, навучэнец палітэхнікума:**
– Хачу, каб у наступным семестры былі лепшыя адзнакі, чым у гэтым. А ў снежні патрэбныя грошы для сустрэчы Новага года.

**Фотаапытанне падрыхтавалі Вольга ПІЛІПЕНКА і Юрый КАРПІЦКІ.**

■ СЕМІНАРЫ

# Маладзечанскія яйкі не маюць маркі

**МАЛАДЗЕЧНА. Па дзяржстандарце Беларусі амаль кожнае курынае яйка абавязана мець штамп, дзе ўказваецца катэгорыя прадукту і дата з'яўлення на свет. Выключэнне толькі для яек, што захоўваюцца ад 30 да 120 дзён.**

У Маладзечне амаль паўсюль прадаюцца немаркіраваныя яйкі. Гэта парушэнне. Тэма яек выклікала найбольшую цікавасць сярод удзельнікаў семінара "Спажывец і яго правы", які прайшоў 23 лістапада.

Арганізаваў сустрэчу гарвыканком. Мэта семінара – дапамагчы камерсантам пазбегнуць праблем, якія ўзнікаюць пры праверках іх кантралюючымі органамі. Выступалі прадстаўнікі Маладзечанскай арганізацыі абароны спажыўцоў, Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, Цэнтра стандартызацыі і метралогіі, падатковай інспекцыі і "Камунальніка".

Прадпрымальнікам растлумачылі, што яны павінны выдаваць чэкі пры аказанні любых паслуг, незалежна ад таго, патрабуе гэтага спажывец ці не. І з гэтым згадзіліся ў зале.

Яшчэ прадпрымальнікі цікавіліся, што рабіць з гандлярамі-грамадзянамі іншых краін, так званымі нерэзідэнтамі. Бо, калі айчынных прадпрымальнікаў больш-менш прывучылі да таго, што трэба прытрымлівацца заканадаўства, то з гасцямі з поўдня яшчэ шмат работы. І чэкі многія не выдаюць, і санітарныя нормы не выконваюць. Часцяком любяць пагандляваць у непрыстасаваных для гэтага месцах. Вырашылі, што трэба папрацаваць і адміністрацыі гарадскіх рынкаў, і міліцыі, і органам выканаўчай улады горада і раёна.

**Юрый КАРПІЦКІ.**




Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Маладзечна, аўторак. Курыныя яйкі прадаюцца без маркіроўкі. Гэта з'яўляецца парушэннем дзяржстандарту Беларусі.**

■ СПАЖЫВЕЦКІЯ КЛОПАТЫ

# Атэлье выплаціць 119 тысяч рублёў

**МАЛАДЗЕЧНА. 119 тысяч рублёў абавязанае выплаціць жыхарцы горада адно з гарадскіх атэлье як кампенсацыю за няякасны пашыў паўпаліто. Апошні тэрмін выплаты – 3 снежня.**

Гісторыя пачалася ў пачатку верасня. Тады жанчына заказала пашыць скуранае паўпаліто з яе матэрыялу. У канцы кастрычніка яна прыйшла па заказ. Паліто ёй не падышло: аказалася завузкае. Жанчына аднесла яго да дырэктара атэлье і яны дамовіліся, што паліто пераробяць, а калі недахопы ўхіліць будзе немагчыма, то кампенсуюць выдаткі.

У пачатку лістапада жанчына забрала заказ, але паліто зноў не падышло. Праз тыдзень яна зноў вярнула заказ. Дырэктар атэлье папрасіў, каб яна напісала заяву на кампенсацыю. Жанчына гэта і зрабіла. У заяве яна напісала прычыны, па якой патрабуе кампенсацыі. Па гэтым пытанні сабралася камісія, якая вырашыла, што брак атрымаўся з-за таго, што скура, з якой рабілася паліто, была няякасная. Хаця калі прымалі заказ, ні ў каго не было пытанняў па матэрыяле. Жанчына звярнулася ў Маладзечанскую арганізацыю абароны спажыўцоў.

Старшыня арганізацыі **Уладзімір Клешч** сказаў, што ў дадзенай сітуацыі атэлье дапусціла наступнае парушэнне: яно не заключыла дагавор з кліентам, у якім павінен быць агавораны тэрмін выканання заказу. Тым самым атэлье парушыла артыкул 16 "Правілаў бытавога абслугоўвання насельніцтва". У. Клешч раіць спажыўцам патрабаваць падобныя квіткі. Тым самым вы зможаце даказаць сам факт аказання паслугі, а ў выпадку прэтэрміноўкі – атрымаць кампенсацыю. Але вы і самі заплаціце, калі не ў тэрмін забераце заказ.

Прадстаўнік атэлье і жанчына прыйшлі да канчатковага рашэння ў аўторак.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ НАШЫ ГРОШЫ

# Што дасць павышэнне «мінімалкі»

У адпаведнасці з пастановай Савета міністраў, памер мінімальнай заработнай платы (МЗП) і стаўкі першага разраду з 1 снежня складзе, адпаведна, 10000 і 19500 рублёў.

Наўрад ці павышэнне "мінімалкі" істотна паўплывае на даходы беларусаў, бо МЗП ужо даўно страціла сваю ролю мінімальнай гарантыі аплаты працы, ператварыўшыся ў нейкую ўмоўную адзінку для разлікаў штрафаў, падаткаў, пошлін і падобных плацяжоў. Функцыі ўласна мінімальнай зарплаты выконвае стаўка першага разраду.

Але па "дзяржаўных" тарыфах аплачваецца, у асноўным, праца "бюджэтнікаў" і работнікаў прадпрыемстваў, якія карыстаюцца дзярждатацыямі. На прамысловых прадпрыемствах стаўка першага разраду ўстанаўліваецца калектыўнымі дагаворамі і, як правіла, некалькі вышэйшая. Таму павышэнне МЗП не прывядзе да аўтаматычнага павышэння зарплат на такіх прадпрыемствах.

З іншага боку, да памеру мінімальнай зарплаты прывязаныя штрафы, пошліны і г. д. З 1 снежня злоўлены ў аўтобусе "заяц" можа быць аштрафаваны на 5 тысяч рублёў, а мінімальны памер штрафу за падатковыя парушэнні складзе 100 тысяч "зайчыкаў". Заўважу, што гэта крыху менш, чым зарплата сярэдняга беларуса, што публікаецца ў афіцыйнай статыстыцы.

Трапіць жа пад "падатковы" штраф можа практычна любы жыхар нашай краіны, калі ён, прыкладам, працуе ў двух месцах, атрымлівае ганарары, падарункі або спадчыну. Па выніках 2001 года, многім з нас давядзецца падаваць падатковую дэкларацыю. Улічваючы ж "забыўчывасць" беларускага народа, пагроза дастаткова рэальная. Таму ў студзені-лютым варта, напэўна, атрымаць кансультацыі падатковых органаў.

Каментуючы павышэнне МЗП, прэзідэнт буйнейшага аб'яднання дзелавых людзей нашай краіны – Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі – **Мікалай Стральцоў** заявіў:

– Мы даўно заклікалі "адвязаць" ад мінімальнай зарплаты памеры штрафаў, падаткаў і пошлін. У парламенце знаходзіцца праект закона аб мінімальных памеры аплаты працы, падрыхтаваны ў свой час Міністэрствам працы з удзелам экспертаў БНПА, які прама забараняе выкарыстоўваць памер МЗП інакш, як для вызначэння памеру аплаты рабочай сілы. На нашу думку, панятце "мінімальная зарплата" павінна выкарыстоўвацца толькі ў сферы працоўных стасункаў і яе павышэнне не павінна пераварочваць усю эканоміку.

Будзем спадзявацца, што прапановы прадпрымальнікаў ажыццявяцца і "мінімалка" стане менавіта зарплатай, а не нейкай умоўнай адзінкай.

**Сяргей БАЛЫКІН.**

■ АДНЫМ АБЗАЦАМ

# Без каментарыяў

♦ З 2002 года Міністэрства фінансаў Польшчы плануе зрабіць правілы ўвозу ў краіну алкагольнай і тытунёвай прадукцыі больш жорсткімі. Без уплаты мытных пошлін можна будзе ўвозіць 1 паўлітровую бутэльку спіртнога напітку з утрыманнем алкаголя да 45° і адзін пачак цыгарэт і толькі ў выпадку прабывання за мяжой больш за 24 гадзіны. Цяпер дазволены ўвоз двух бутэлек спіртнога, чаму радыя некаторыя нашы суграмадзяне, якія перапрадаючы гарэлку за кардон суседзям. Іхні навар у выпадку адабрэння праекта закона парламентам рэзка зменшыцца.

♦ Растуць паведамленні пра банкруцтва сусветна вядомых кампаній, выкліканыя спадам сусветнай эканомікі пасля тэрактаў у ЗША. Заявы ў суд аб банкруцтве падалі кампанія Палароід і фірма Мулінэкс, церпяць вялізныя страты авіякампаніі, страхавыя і турыстычныя агенцтвы. Зніжэнне продаж і прыбыткаў чакае і аўтамабілебудаўнікоў, у сувязі з чым чакаецца рэзкае скарачэнне персаналу і цэнаў на аўтамабілі.

♦ У Італіі разгарэўся скандал – 14 замежных прадстаўніцтваў абвінавачваюцца ў карупцыі. Супрацоўнікі пасольстваў і консульстваў прадавалі ўязныя візы і патуралі незаконнай іміграцыі. Замешаныя аказаліся і мы. У Беларусі камерцыйныя візы выдаваліся, у асноўным, маладым дзяўчатам і зусім не з пазнавальнымі мэтамі.

♦ Прадказанні вельмі халодная зімы не збудуцца. Звычайна прынята думаць, што за незвычайна спакойным летам бывае незвычайна марозная зіма, аднак прыродных сувязяў няма. Зіма 2001–02 года будзе звычайная, блізкая да шматгадовых кліматычных нормаў. Нават крыху цяплейшая. Проста мы даўно не бачылі сапраўднай зімы, таму яна і можа здавацца даволі халоднай. Лістапад-сакавік тэмпература будзе блізкая да нормы, толькі ў студзені чакаецца трошкі халаднейшая: выдуцца 10 дзён, калі мароз будзе 25–30 градусаў.

♦ Маладзечанскай пракуратурай дадзеная санкцыя на арышт 50-гадовага дырэктара Мядзельскага аграпрамэнерга, які абвінавачваецца ў злоўжыванні службовай пасадай і крадзяжом грашовых сродкаў у буйным памеры. Ведзецца следства.

♦ У сувязі з уступленнем у бліжэйшым будучым Літвы ў ЕС з 2003 года, суседзі адменяць бязвізавы ўезд пенсіянераў, які дзейнічае цяпер. Усім жадаючым наведаць Вільнюс давядзецца купляць візу.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 22 лістапада | 29 лістапада |
|---|---|---|
| Долар | 1528,00 руб. | **1538,00** руб. |
| Нямецкая марка | 687,23 руб. | **696,25** руб. |
| Літ | 382,11 руб. | **384,56** руб. |
| Расійскі рубель | 51,10 руб. | **51,38** руб. |
| Злоты | 373,09 руб. | **375,53** руб. |
| ЕЎРА | 1344,11 руб. | **1361,75** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1540 – 1560 руб. | **1550 – 1570** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 21.11 | 28.11 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 7700 | 7700 |
| Сасіскі, 1 кг | 3280 | 3280 |
| Селядзец, 1 кг | 1950 | 1950 |
| Рыс, 1 кг | 530 | 540 |
| Грэчка, 1 кг | 430 | 430 |
| Цукар, 1 кг | 675 | 675 |
| Алей, 1 л | 1250 | 1300 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 850 | 950 |
| Маянэз, 200 г | 300 | 300 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1700 | 1700 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 530 | 530 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 550 | 550 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 350 | 350 |
| Капуста, 1 кг | 150 | 160 |
| Лімоны, 1 кг | 1100 | 1200 |
| Апельсіны, 1 кг | 1000 | 1100 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1300 | 1500 |
| Масла, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Тварог, 1 кг | 1400 | 1200 |
| Малако, 1,5 л | 500 | 500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1700 | 1700 |
| Бульба, 1 вядро | 1800 | 1800 |
| Морква, 1 кг | 300 | 300 |
| Яблыкі, 1 кг | 500 | 400 |

■ РЫНАК

# Кілбасы на месцы малака

**МАЛАДЗЕЧНА. З 1 снежня пачнецца будаўніцтва месцаў для гандлю кілбаснымі вырабамі. Новы павільён будзе працаваць на месцы цяперашніх малочных радоў.**

Да 1 красавіка 2002 года кілбасамі будуць гандляваць з адступленнем ад санітарных нормаў.

■ ВЫСТАЎКІ

# Мэбля з Маладзечна ў Маскве

**МАЛАДЗЕЧНА. З 19 па 23 лістапада ў Маскве прайшла штогадовая міжнародная выстаўка "Мэбля-2001". На ёй была прадстаўленая прадукцыя ЗАТ "Маладзечнамэбля".**

Як расказаў эканаміст аддзела збыту Аляксандр Максімовіч, арганізатары выстаўкі выдзелілі дэлегацыі павільён у 97 квадратных метраў. На іх выставілі тры спальні ("Алімпія", "Алеся" і "Неўда-20") і набор для гасцінай.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ «РГ»-СТАТЫСТЫКА

## Дарожна-транспартныя здарэнні



**Колькасць дарожна-транспартных здарэнняў** (лічбы па стане на 1 лістапада, чалавек)

| Раён | 2000 год: загінула | 2000 год | 2001 год: загінула | 2001 год |
|---|---|---|---|---|
| Астравецкі раён | 6 | 17 | 3 | 16 |
| Ашмянскі раён | 7 | 28 | 5 | 27 |
| Валожынскі раён | 6 | 26 | 10 | 23 |
| Вілейскі раён | 9 | 30 | 9 | 35 |
| Маладзечанскі раён | 24 | 87 | 11 | 79 |
| Мядзельскі раён | 6 | 26 | 7 | 21 |
| Смаргонскі раён | 9 | 31 | 16 | 32 |

■ ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

# Ішла калектывізацыя

**Канец 40-х і пачатак 50-х гадоў азнаменаваўся на Мядзельшчыне шырокім размахам калектывізацыі.**

Напрыклад, у вёсцы Пількаўшчына, на радзіме **Максіма Танка**, некаторыя суседзі заўпарціліся:

– Няхай пададуць заявы родзічы **Яўгена Іванавіча**, тады і мы напішам.

Як потым запіша ў сваім "Дзённіку" (апублікаваны ў "Полымі") М. Танк, яму давялося заявіцца ў Пількаўшчыну да бацькоў і сваякоў і пераконваць, што іншага шляху, як калектыўнага, на вёсцы не будзе, а таму нельга наклікаць на сябе няміласць уладаў.

І так кожная вёска: свой калгас, са сваім найменнем. Якія ж гэта былі назвы? Больш за сто розных на тэрыторыі цяперашняга Мядзельскага раёна (звесткі ўзятыя з кнігі "Памяць"). Найбольш уславілі вяскоўцы Варашылава. Яго імя займела аж 13 калектыўных гаспадарак. Імя Сталіна стала насіць 9 калгасаў, затое з'явіліся 4 "Сталінскія шляхі", па адным – "Сталінская Канстытуцыя", "70 год І. В. Сталіну".

Імя Леніна ўдастоіліся 7 гаспадарак, дзве сталі называцца "Ленінскі шлях", па адной – "Ленінскі заклік", "Шлях Ільіча". У "Новым жыцці" сталі жыць сяляне 10 вёсак, а "зачырванеліся" аж 20 ("Чырвоная зорка", "Чырвоны рыбак", "Чырвоны баец", "-Чырвоны колас" і інш.).

Гістарычнай датай – "17 верасня" – пажадалі называцца сяляне 5 калгасаў. Па 8 гаспадарак сталі насіць імя Кірава, імя Чапаева.

Пракурор Вышынскі займеў у раёне столькі назваў (4), як Молатаў, Жданаў, саступіўшы месца Сувораву, Пушкіну, але апярэдзіўшы Горкага, Мічурына, Дзяржынскага, Чарняхоўскага.

Арганізатарамі калектыўных гаспадарак, відаць, былі асобы з філалагічнай адукацыяй, што засведчана ў назвах: імя Якуба Коласа (тры гаспадаркі), імя Янкі Купалы (адна гаспадарка).

Ішоў час, карлікавыя гаспадаркі не раз узбуйняліся. Цяпер у раёне 19 калгасаў, саўгасаў, сельскіх калектыўных гаспадарак. Першапачатковыя назвы носяць гаспадаркі "Ленінскі шлях", "Шлях да камунізму", "Шлях Ільіча", "Бальшавік", "17 верасня", імя Горкага, імя Кірава, імя Калініна.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**



Фота IREX/ProMedia.

**Прымітыўная праца – атрыбут беларускай вёскі. З калгасамі і без калгасаў.**

# «Акалёнія», або Чаму вымiраюць вёскі?

**Артыкул "Што такое акалёнія?" ("РГ", 26.10.2001 г.) выклікаў цікавыя водгукі чытачоў. Былы жыхар вёскі Каловічы М. Валынец успамінае:**

– Папрасілі аднойчы паны нас, дзяцей, дапамагчы ім паляваць на зайцаў у акалёніі. Там паляўнічыя схаваліся на ўзлеску. А мы трашчоткамі гналі вушасцікаў з поля, дзе яны звычайна жыруюць днём. Бедачыны стрымгалоў несліся ў лес ратавацца ад нашай траскатні, а паны ва ўпор стралялі іх з засады. За гэта кожны з нас паклаў у кішэню па 50 грошаў. Дарослыя зараблялі больш. Так, вясковыя жанчыны-падзёншчыцы за дзень жніва атрымлівалі 1–1,5 злотых. Мужчынам на касьбе, на ворыве ці сяўбе плацілі за дзень па 2,5 злотых. А хто працаваў на ўласным кані, атрымліваў па 5. Вялікія грошы па тым часе.

Цяперашні жыхар гэтай жа вёскі **Г. Гулецкі** пацвярджае:

– Сапраўды, з пагардай ставіліся сяляне да акалёнцаў. Але толькі на словах. А ў душы зайздросцілі ім. Напрыклад, памер мой сусед. Дасталася яго дзецям у спадчыну пясчаная шасціна зямлі. Падзялілі яе спадчыннікі – атрымалі мізэрныя лапінкі. Як тут жыць? І паехалі яны ў Любань, у акалёнію. Зажылі там прыпяваючы: апрануліся, набылі ровары – паказчыкі дастатку ў тадышнім жыцці.

Не магу абысці і ўласныя ўражанні. Напачатку 1960-х я працаваў у той самай Любані ў сярэдняй школе. Тады ў мясцовым саўгасе жыло яшчэ нямала былых панскіх акалёнцаў. І прыезджаму начальству яны ўжо не баяліся кідаць у вочы, як было лепш пры панах і як нялюдска цяпер. Таму аднойчы на партыйным сходзе выбухам бомбы прагучала роспач маладога агранома:

– Чаму пры Польшчы хапала кармоў жывёле ў маёнтку? А цяпер далучылі сюды землі і сенажаці яшчэ 7 вёсак – і нестае. І прытым рабочыя саўгаса самі ўтрымліваюць сваіх рагуль. Большасць бульбы вучні затапталі ў зямлю, бо дарослыя не хочуць працаваць за мізэрную плату.

Ну, і далей ў такім сэнсе. Але праўда тады не была ў пашане: яго за гэта выключылі з партыі і знялі з працы. Нават вымушаны быў некуды з'ехаць той добрасумленны аграном.

Тады я, пастаянны аўтар "Мінскай праўды", даслаў у газету чарговы артыкул, у якім паказаў дзень жыцця працаўнікоў сяла, на плечы якіх дзяржава ўзваліла невыносны цяжар і калектыўнай, і ўласнай гаспадаркі. Прытым уласны клопат да пачатку, і пасля працы ў калгасе ўшчэнт вымотвае сілы сялян. Атрымалася тыповая карціна рэальнай беспрасветнасці вяскоўцаў. Ніякай там контррэвалюцыі ў артыкуле і блізка не было. Артыкул той не толькі не змясцілі, але і палічылі, што гэтага замала: аўтару наогул забаранілі друкавацца.

Упэўнены, што многія тады білі ў набат пра гэтую сялянскую бяду, пакуль не пераканаліся ў марнасці сваіх намаганняў. І калгасны лад заставаўся нібы бестэрміновым пакараннем для сялян, замест таго, каб прыносіць радасць вольнай працы. Ці не таму вёскі, якія вытрымалі ўдары нават вогненных шквалаў шматлікіх разбуральных воўнаў, развaліліся ад калгаснага эксперыменту і гаротна паміраюць?

**Аляксандр НАРКЕВІЧ, Вілейка.**

# Стань звяном у жывым ланцугу!

**9 снежня з 15-00 да 16-00 па ўсёй Беларусі выстраіцца "ланцуг неабыякавых людзей" у рамках кампаніі "Хочам ведаць праўду".**

За апошнія два з лішкам гады ў нашай Беларусі зніклі, дакладней, былі гвалтоўна выкрадзеныя экс-міністр унутраных спраў **Юрый Захаранка**, віцэ-спікер Вярхоўнага Савета **Віктар Ганчар**, прадпрымальнік **Анатоль Красоўскі** і тэлежурналіст **Дзмітрый Завадскі**. Пры гэтым улады нічога не зрабілі для раскрыцця гэтых злачынстваў. Наадварот, ствараецца ўражанне, што менавіта імі ўсякія сляды старанна замятаюцца. А ўспомнім яшчэ, што непасрэдна перад першым гучным выкраданнем пры загадкавых абставінах пайшоў з жыцця адзін з лідэраў беларускай апазіцыі **Генадзь Карпенка**. Што да гэтага часу за кратамі дэпутат **Андрэй Клімаў**.

"Не пытайся, па кім звоніць звон. Ён звоніць па табе"... Гэтыя словы амаль невядомага для нас **Джона Дона**, якія сталі сусветна вядомыя дзякуючы **Эрнэсту Хемінгуэю**, сёння як ніколі актуальныя ў Беларусі. Калі табе цяпер наплюваць на лёсы ахвяр дыктатуры, потым не здзіўляйся і не крыўдуй, калі іншым будзе гэтак жа напляваць на лёс твайго сябра, брата, ды і на твой уласны! Ты павінен менавіта цяпер падняць свой голас, каб ён прагучаў у магутным хоры неабыякавых: "Хочам ведаць праўду!".

**Прэс-служба Аб'яднанай грамадзянскай партыі.**

■ МІНУЛАЕ

# Напярэдадні другой сусветнай вайны

Стаяў траскучы люты 1939 года. І хоць на ўсе Каловічы быў адзіны радыёпрыёмнік у гміне, было ведама вяскоўцам пра варожае стаўленне Нямеччыны да Польшчы. Нават запахла вайной, бо немцы запатрабавалі даць ім праз тэрыторыю Польшчы калідор ва Усходнюю Прусію. А Польшча, нязгодная з гэтым гвалтоўным нахабствам, зрабілася мішэнню нямецкіх пагрозаў.

## Карта павалання

І вось у гэты трывожны час **Міколу Валынцу** ўручылі ў гміне чарговую, ужо трэцюю, "карту павалання" – позву на ваенную медкамісію. І ўсё яго жыццё, кароткае і нялёгкае, нібы перавярнулася навыварат. Яму, яшчэ 12-гадоваму хлапчуку, давялося пачаць цягнуць адказную ношу кармільца сям'і, бо застаўся без бацькі. Нарэшце, нібы сонца праз бясконцыя дакучлівыя хмары, капрызлівы лёс узнагародзіў яго вялікім шчасцем кахання. Суседка – прыгажуня **Альжбета** – стала яго жонкай. Два гады таму знайшлася дачушка **Аня**. Чакаюць ужо другое дзіцятка. Быццам бы жыццё крыху пачало наладжвацца, як раптам гэтая злашчасная паперка...

– Магчыма, зноў адтэрмінуюць службу, – сказаў ён жонцы. – Я ж адзіны кармілец у сям'і. А пасля трох адтэрміновак у гміну прысылаюць ваенны білет. І я дома назаўжды! А калі возьмуць, дык на 18 месяцаў.

Назаўтра ў Вілейцы ў вайсковых казармах прайшоў Мікола медкамісію. Але жаданай трэцяй адтэрміноўкі не далі. Накіравалі яго ў артылерыйскі полк у Вільню. Павестка была адначасова і праязным білетам.

## Ад пад'ёму да адбою

Ля прахадной палка сустрэў навабранцаў дзяжурны. Адвёў іх у казарму. Тут пастрыглі навічкоў нагала, звадзілі ў лазню. Затым здалі яны ўласнае адзенне на склад, узамен атрымалі штодзённую і выхадную формы. Кожнаму выдзелілі ў казарме ложак з бялізнай, шафу для выхаднога абмундзіравання, кацялок, лыжку, відэлец. А пачалася служба з першай пробы салдацкай кашы.

Назаўтра, у 6 гадзін, трубач падаў сігнал пабудкі. Агульная малітва на пляцы, фіззарадка. Затым засцяліць ложак – і ў стайню: напаіць коней, даць ім сена, аўсу, пачысціць коней, стайню.

А тут ужо трубач дае "вясёлы" сігнал: строіцца на снядак. З песняй крочаць навабранцы ў сталовую, дзе кожны атрымае шклянку салодкай кавы, порцыю сітнага хлеба з маслам і сырам. Адтуль "крокем марш" з песняй у артылерыйскі парк. Там вывучалі ўстройства гарматы, вучыліся яе зараджаць і прыцэльвацца. Асвойвалі карабін, гранату. Раз на тыдзень хадзілі ў цір на практычныя стрэльбы з карабіна, для чаго атрымлівалі па 3 патроны.

На абед крочылі строем з кацялкамі і лыжкамі пад гукі салдацкай песні. У кацялок налівалі ім супу, у накрыўку кацялка давалі кашу і 200 грамаў мяса і хлеб. Пасля абеду мылі кацялкі, лыжкі і відэльцы – ды зноў у стайню: паіць, карміць, чысціць коней і іх "кватэру". А на вячэру давалі кашу ў накрыўку кацялка ды салдацкую гарбату з хлебам. Усяго салдацкага чорнага хлеба выдавалася ў дзень 800 грамаў. Пасля вячэры зноў чакалі коні: паіць, карміць іх, чысціць стайню...

Цягнулі ў батарэі салдацкую лямку і 7 яўрэяў. Ваенныя ўлады паважалі іх нацыянальныя звычкі і асаблівасці. Паколькі яны не елі мяса разам з усімі, ім за харч плацілі грашыма. І яны на свой густ куплялі ежу ў вайсковай краме палка і харчаваліся асобна.

Ад вячэры і да 21 гадзіны – вольны час. Усім вольным ад службы дазвалялася ісці ў горад. Толькі абавязкова з "багнэтам" (штыком). А 21 гадзіне праводзілася агульная малітва на пляцы – і адбой. Таму той, хто хацеў адлучыцца з часці да 23 гадзін, павінен быў браць пропуск у шэфа батарэі.

У польска-нямецкіх стасунках напружанне ўсё ўзрастала. Таму вучылі жаўнераў вельмі сур'ёзна. Стрэльбы ў ціры замянілі палявымі вучэннямі: маскіроўка на мясцовасці, акопванне, стральба па мішэнях у лесе. Там для стральбы выдавалася ўжо па 5 патронаў.

Распарадак дня мяняўся толькі ў нядзелю і святочныя дні. Тады ў выхадной форме строем з песнямі салдаты-каталікі ішлі ў касцёл да вайсковага ксяндза, праваслаўныя – у царкву да вайсковага святара, а яўрэі – у сінагогу да рабіна.

## Манеўры

Ваенная пагроза адбівалася на баявой падрыхтоўцы жаўнераў. Вучэнні максімальна наблізілі да ваенных дзеянняў, узмацнілі дысцыпліну. Міколу Валынца не адпусцілі дадому ў кароткатэрміновы водпуск нават на народзіны яго другой дачушкі.

Неяк у сярэдзіне лета трубач сыграў сігнал баявой трывогі. І полк рушыў на манеўры. Прабіраліся палявымі дарогамі, якімі так густа была спавітая Заходняя Беларусь. Ад Маладзечна – у бок роднай Вілейшчыны. А там сцяжынкамі дзяцінства праз Любань на Глыбокае. Полк з гарматамі на коннай цязе ўяўляў сабой маляўнічае відовішча. Нібы цыганскі табар памкнуўся некуды ў пошуках падманлівага шчасця. Калі сіўкі-буркі выбіваліся з усіх конскіх сіл, ім давалі адпачынак. А жаўнеры размяшчаліся або ў хатах, або ў таках.

У ваколіцах Глыбокага полк развярнуў свае гарматы на баявых пазіцыях сініх супраць чырвоных. Вучыліся страляць па рухомых і нерухомых, адкрытых і закрытых цэлях. Адпрацоўвалі прыёмы бою вельмі сур'ёзна, днём і ноччу. За ўшчэнт здратаваныя палі сялянам добра заплацілі і такім жа шляхам вярнуліся ў родныя сцены сваіх віленскіх казармаў.

Праз 6 месяцаў была прызначаная вялікая ўрачыстасць – прыём прысягі ў маладога папаўнення. На гэтае свята прыбыў біскуп са світай святароў. На пляцы перад строем палка ён правёў адмысловае ўрачыстае набажэнства. Затым жаўнеры паўтаралі за ім словы салдацкай прысягі, выслухалі палымяны заклік бараніць Рэч Паспалітую – айчыну многіх народаў. І гэты яго гарачы заклік неўзабаве давялося жаўнерам апраўдваць на працягу многіх бясконцых ваенных дарог.

На світанку 1 верасня 1939 года палкавы трубач сыграў баявую трывогу – пачатак другой, самай крывавай сусветнай вайны. Полк рушыў на фронт пад Львоў, дзе стойка ўтрымліваў баявыя пазіцыі да 17 верасня 1939 года. Затым для большасці салдат – савецкі палон амаль на два гады. Потым Армія Андэрса. І шматпакутны шлях у тысячы кіламетраў: Іран, Ірак, Сірыя, Іярданія, Палесціна, Егіпет. Вызваленне Італіі – і доўгачаканае свята перамогі ў Балоны. Гэта цярністы шлях да агульнай Перамогі над фашызмам многіх тысяч сыноў тваіх, родная Беларусь.

І як прыемна, што Англія і Польшча ўдзячна памятаюць сваіх абаронцаў – нашых землякоў: ушанавалі іх узнагародамі і дастойнымі пенсіямі. Усіх, хто змагаўся ў радах Войска Польскага супраць агульнага ворага – гітлераўскага фашызму.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ.**

# «Оперы» з «Вуліцы разбітых ліхтароў» мала падобныя на сапраўдных



Фота IREX/ProMedia.

**Аддзел крымінальнага вышуку Маладзечанскага ГРАУС заўсёды працуе ў напружаным рэжыме. Напрыклад, толькі за 2 дні лістапада адбыліся 2 забойствы і адзін замах на забойства. Падазроныя затрыманыя. А напрыканцы мінулага тыдня ў раёне на сметніку знайшлі мёртвае нованароджанае дзіця. Так што работы мясцовым вышукнікам хапае.**

### Найбольш сур'ёзныя злачынствы

| | колькасць выпадкаў |
|---|---|
| **забойствы** | |
| 2000 год | 7 |
| на дадзены момант 2001 года | 13 |
| **згвалтаванні** | |
| 2000 год | 11 |
| на дадзены момант 2001 года | 4 |
| **цяжкіх цялесных пашкоджанняў** | |
| 2000 год | 35 |
| на дадзены момант 2001 года | 32 |

## «На памяць маёй адзінай, дарагой Лялі...»

Гэты надпіс на кнізе зрабіў злачынца. Ён забіў сваяка, расчляніў ягоны труп і закапаў паблізу гарадскіх могілак. Пасля прыгавору суда забойца (дарэчы, ён атрымаў вышэйшую меру пакарання) адаслаў звычайную кнігу-дэтэктыў сваёй каханцы. Аднак па аб'ектыўных прычынах пасылка не знайшла адрасата. І цяпер знаходзіцца ў сейфе начальніка аддзела крымінальнага вышуку Маладзечанскага ГРАУС **Георгія Поклада**.



Фота Віталя КРУПЯНЬКОВА.

**Георгій Поклад, начальніка аддзела крымінальнага вышуку Маладзечанскага ГРАУС**

**– Георгій Сямёнавіч, ці існуе нешта накшталт мясцовага музея крымінальнага вышуку, дзе захоўваліся б прылады забойстваў і іншыя цікавыя рэчы злачыннай дзейнасці?**

– Падобная атрыбутыка пасля суда знішчаецца. Захоўваць яе няма ніякага сэнсу, тым больш, выстаўляць на агляд. Тут прысутнічае і маральны аспект. Штодзень мы сутыкаемся з парушэннем закона. І калі б збіралі нейкую калекцыю, то проста не хапіла б месца ў нашым 3-павярховым будынку па Галіцкага.

Прылада забойства – частка драўлянага крэсла. 6 лістапада ў кватэры-прытоне па Вялікім Гасцінцы раней судзімы В. збіў часткай крэсла свайго знаёмага. Ды так моцна, што той і не прыйшоў у прытомнасць. Забойцу затрымалі ў бары за куфлем піва.

Крымінальны вышук – адна з вядучых службаў Міністэрства унутраных спраў Рэспублікі Беларусь. Сёлета гэтай службе споўнілася 83 гады. Супрацоўнікі крымінальнага вышуку працуюць над раскрыццём злачынстваў, асабліва супраць асобы: забойстваў, разбояў, рабаванняў, згвалтаванняў, крадзяжоў. Так, часцяком маладзечанскія "пінкертоны" раскрываюць злачынствы па гарачых слядах. А бывае і так: ёсць упэўненасць, напрыклад, што менавіта гэты грамадзянін парушыў закон. А сабраць доказы немагчыма. Такая справа ні ў якім выпадку не кладзецца пад сукно, даспявае. Зрэдку, але бывае, што распрацаваныя версіі не маюць у далейшым перспектывы. Аднак гісторыя маладзечанскага крымінальнага вышуку ведае факт, калі і праз 14 год пасля наўмыснага забойства злачынца затрыманы, арыштаваны і пакараны.

**– Георгій Сямёнавіч, калі прааналізаваць сітуацыю, якія гады найбольш крымінальныя?**

– Апошнія. Просіцца немудрагелістая выснова: чым горш жывуць людзі, тым больш парушаюць закон. Раней забойства лічылася ледзь не ЧП рэспубліканскага маштабу. А цяпер за тыдзень можа быць аж тры забойствы.

**– У апошнія часы хто наводзіў жах на насельніцтва?**

– Я вылучыў бы злачынную групоўку 1997 года. Па маштабах сваёй дзейнасці, лютасці яна нагадвала маскоўскую банду "Чорная кошка". Памятаеце мастацкі фільм "Месца сустрэчы змяніць нельга"? Дык вось, злачынцы мелі агнястрэльную зброю. Рабавалі кватэры, арганізацыі, установы Маладзечна, Смаргоні, Валожына. Калі гаспадары аказвалі супраціўленне, то іх проста забівалі. У той час на стадыёне працаваў рэчавы рынак. Злачынцы пралічылі момант, звязалі скотчам вартаўніка і ўзялі касу – каля 70 мільёнаў рублёў. Вяртаючыся са справы, стрэлам з пісталета паранілі ўчастковага, які хацеў пацікавіцца, хто яны, адкуль і куды накіроўваюцца. Банду гэтую мы арыштавалі. Удзельнікі яе цяпер адбываюць пакаранне.

## І на маньяка давялося паляваць

Падпалкоўнік міліцыі **Аляксандр Найман** у сістэме МУС з 1973 года. Прайшоў усе прыступкі прафесійнага росту. 8 год узначальваў крымінальны вышук. Потым курыраваў яго на пасадзе намесніка начальніка міліцыі, начальніка крымінальнай міліцыі. Цяпер Аляксандр Емяльянавіч з'яўляецца членам Савета ветэранаў ГРАУС.

**– Падчас вашай вышуковай работы Маладзечна нечым "праславілася"?**

– Раней райспажыўтаварыствы мелі вялікую сетку нарыхтоўчых ларкоў. За здадзеную сыравіну дзяржава разлічвалася з насельніцтвам дэфіцытам. Вось такі ларок у Красным і абрабавалі. Прыхапілі грошы, тавары агульным коштам 25 тысяч рублёў (старога ўзору). Высветлілася, што існуе злачынная групоўка, якая спецыялізуецца менавіта па нарыхтоўчых ларках. Доўгі час у горадзе і раёне мы сядзелі ў засадах ля гандлёвых пунктаў. А групоўка пашырала ўжо сваю дзейнасць па рэспубліцы. На іх рахунку было звыш за 100 крадзяжоў. У выніку злачынцаў вылічылі і затрымалі.

**– А на маньяка вам давялося паляваць?**

– У 80-х гадах у горадзе з'явіўся маньяк. Ён забіў тады трох жанчын. Познімі вечарамі падпільноўваў ахвяр. Прыдушваў, сцягваў у падвал, гвалціў і дабіваў. Тады горад быў амаль што паралізаваны. Жанчыны адмаўляліся працаваць у другую змену. Да прыцемак сыходзілі з работы. "Ваявалі" з маньякам амаль месяц. Злавілі.

Аляксандр Емяльянавіч лічыць, што ў маладзечанскім крымінальным вышуку ёсць добрая пераемнасць. На змену выдатным спецыялістам прыходзяць не менш граматныя. На змену вялікім у сваёй галіне вышукнікам **Аляксандру Крукаву, Івану Харэўку, Леаніду Макаёнку, Рамазану Шахеміраву** прыйшлі **Георгій Поклад, Юрый Шынгель, Генадзь Сідзяка, Аляксандр Крывашэя**. На маю прапанову адкрыць нейкія прафесійныя сакрэты вышуку падпалкоўнік не адрэагаваў. Прафесійная тайна.

**– Аляксандр Емяльянавіч, ну, а ці давялося сутыкнуцца з нейкімі хібамі ў крымінальным заканадаўстве?**

– У канцы 70-х гадоў у раёне дзейнічала банда. У злачынцаў была агнястрэльная зброя і рабавалі яны магазіны. Паміж налётамі адседжваліся ў лясах. З работнікамі лясгасаў мы прачэсвалі лясы, абкладалі злачынцаў, нібыта кабаноў. А тыя пераходзілі з месца на месца. Дык вось, калі мы ўзялі злачынцаў (для маскіроўкі выкарыстоўвалі машыну хуткай дапамогі з операмі ўсярэдзіне), адбылося следства, іх судзілі не па артыкуле за бандытызм. А па іншых трох: за разбой, рабаванне, крадзеж. Каб у краіне развітога сацыялізма з'явілася банда – гатага проста не магло быць.



Фота Віталя КРУПЯНЬКОВА.

**За работай «опер» Міхаіл Івашкевіч.**

## Пытанні па тэме

### да Валерыя Чапуры, оперупаўнаважанага крымінальнага вышуку

**– Валерый Віктаравіч, ці ўзнікае ў вас калі-нікалі пачуццё спагады да злачынцаў?**

– Да забойцаў, рэцыдывістаў і іншай падобнай катэгорыі – ніколі. Можна спачуваць падлетку, які крадзе з голаду. Бацькі спіліся, з дому ўсё прададзена. Ну, а калі наогул гаварыць пра падлеткаў... Ёсць пэўная катэгорыя, з якой цяжка працаваць. Напрыклад, хлопцы па першым разе парушылі закон. Яны яшчэ не каштавалі на зоне баланды. Усе "на пантах", з амбіцыямі. Але гэта хутка праходзіць, калі асуджаныя самнасам сутыкаюцца з жыццём зоны.

**– Ці бывае, што оперу пагражаюць фізічнай расправай?**

– Часцяком. Злачынца загнаны ў кут. Доказаў ягонай віны дастаткова. Што застаецца? Каяцца? Гэта наўрад ці. Толькі і застаецца, што пагражаць. І мне, і маім калегам тэлефануюць з пагрозамі. Мы з гэтым звыкліся. Аднойчы мяне ўвечары спаткалі. Лічу, што мала ім не падалося.

### да Сяргея Кабушава, оперупаўнаважанага крымінальнага вышуку

**– Сяргей Валер'евіч, ці сустракаюцца "высакародныя" ашуканцы? Напрыклад, злодзеі залезлі ў кватэру. Паглядзелі, што гаспадары жывуць небагата і... нічога з сабою не прыхапілі.**

– Казкі. Калі злодзей некуды ўлез, ён будзе цягнуць столькі, колькі панясе. І наколькі абставіны будуць спрыяць.

**– Які раён горада прыносіць вам у большай ступені галаўны боль?**

– Гэта так званы спальны раён (вуліцы Будаўнікоў, Міру, Ф. Скарыны, раён СШ №11, 12).

**– Работа "ментоў" з вядомага тэлесерыяла нечым нагадвае работу сапраўдных операў?**

– У серыяле шмат фантазіі, аўтарскага вымыслу. Хіба што ў першых серыях было нешта падобнае на нашу работу. А так, адно слова – мастацкі фільм.

**– Пытанне банальнае. Якія якасці павінен мець супрацоўнік крымінальнага вышуку?**

– У паляўнічых сабак ёсць такая якасць – вязкасць. Пачуў здалёк зайца і пагнаў яго. У такой гонцы – хто каго? Так і ў нас. А яшчэ опер павінен выдатна ведаць сваю тэрыторыю. Абагульняць досвед калег, старэйшых таварышаў. Напрацоўваць досвед. Тады і інтуіцыя дапаможа.

### да намесніка начальніка аддзела крымінальнага вышуку Юрыя Шынгеля

Ён узначальвае групу па барацьбе з цяжкімі злачынствамі.

**– Юрый Вячаслававіч, калі зазірнуць у недалёкае мінулае, якая справа найбольш адбілася ў памяці?**

– Справа аб знікненні прыватнага таксіста. У жніўні 1995 года чалавек знік. Праз тыдзень пасля знікнення ў Навагрудскім раёне знайшлі ягоную "дзевятку". Дакладней, тое, што ад яе засталося: машына гарэла. Усе намаганні знайсці таксіста або ягоны труп былі няўдалыя. І толькі праз год за вёскай Крыніца механізатар калгаса "Усход" заўважыў нагу чалавека, што вытыркалася з зямлі. Тут быў закапаны труп таксіста са звязанымі рукамі. Экспертыза дала заключэнне, што чалавек загінуў ад удару нажом у вобласць сэрца. Было распрацавана некалькі версій. Такім чынам выйшлі на забойцаў. Вось як тады развіваліся падзеі. Трое сяброў вырашылі ўцячы ад гарадской спякоты на возера за вёскай Крыніца. Спынілі прыватнае таксі. Ужо на месцы таксіст праявіў настойлівасць, бо яго хацелі падмануць з аплатай. Пачаліся спрэчкі. Удар нажом паставіў кропку. Калі мы выйшлі на забойцаў, то адзін з іх пайшоў ужо з жыцця. А двое іншых адбывалі пакаранне пад Віцебскам за нейкія дробныя злачынствы. Прычым, сур'ёзна рыхтаваліся да амністыі.

**– А самае жахлівае забойства, на ваш погляд, дзе, калі і як адбылося?**

– Кожнае забойства – гэта жах. Але бываюць выпадкі проста жудасныя. У раёне маці з дачкой забілі чалавека, які з імі разам жыў. Усім сказалі, што той з'ехаў на заробкі ў Расію. На самой справе, забілі яго і закапалі ў хляве. Пазней напісалі заяву аб знікненні. Тры гады хадзілі каля трупа, увесь час карысталіся хлявом.

**– Вы раскрываеце забойствы. А якую маеце матэрыяльна-тэхнічную базу? Бо ў кожным кабінеце бачу не камп'ютэры, а пішучую машынку ўзору 70-х год. Што, з матбазай сапраўды так дрэнна?**

– Не ў нашых характарах на нешта скардзіцца. Калі не хапае матбазы, то мы б'ем чалавечым фактарам па навуковым прагрэсе. І перамагаем.

**Старонку падрыхтаваў Віталь КРУПЯНЬКОЎ.**

# ВІНШАВАНКІ

Сардэчна віншуем мастака **Міколу Аўчыннікава** з юбілеем!
Жадаем яму моцнага здароўя, дабрабыту і творчага плёну.
*Настаўнікі і вучні аддзялення выяўленчага мастацтва прадпрыемства САШМ.*

Віншуем **Уладзіміра Рынкевіча** з 45-годдзем! Жадаем здароўя, шчасця, даўгалецця. *Дачка, зяць, унучка, жонка і сын.*

Віншуем з днём нараджэння **Святлану Аўчыннікаву**, медсястру Маладзечанскай дзіцячай бальніцы! Жадаем шчасця, здароўя, кахання. *Сяброўкі па рабоце.*

Віншую з днём нараджэння сяброўку **Свету Сівец**! Жадаю здароўя, шчасця і поспехаў у вучобе. *Лепшая сяброўка Вольга.*

Віншуем з днём нараджэння **Валянціну Мікалаеўну Яфімчык**! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, кахання, сямейнага дабрабыту. *Томкавічы.*

Сардэчна віншуем **Іначку** з днём нараджэння! Моцнага здароўя, шчасця, кахання, поспехаў у працы. *Сяброўкі.*

Віншуем з днём нараджэння **Зою Захараўну Троцкую**! Жадаем шчасця, здароўя, сямейнага дабрабыту, кахання. *Калегі.*

Віншуем з 35-годдзем **Анатоля Філістовіча**! Жадаем шчасця, здароўя, кахання. *Сям'я Рамановічаў.*

Віншуем з 35-годдзем дарагога татачку і мужа **Анатоля Філістовіча**! Жадаем здароўя, шчасця, усяго найлепшага. *Дочкі, жонка.*

Віншуем з днём нараджэння **Ірыну Крыўчынку**! Жадаем здароўя, поспехаў у вучобе, добрых сяброў. *Таня, Эля.*

## ІМЯНІНЫ

**30 лістапада**
**Праваслаўныя**: Лазара, Нікана, Рыгора.
**Каталіцкія**: Юстыны, Андрэя, Людаслава.

**2 снежня**
**Праваслаўныя**: Андрыяна, Аўдзея, Іліядора.
**Каталіцкія**: Першы тыдзень Адвенту, Біянкі, Паўліны.

**3 снежня**
**Праваслаўныя**: Ганны, Фёклы, Анатоля, Ісака, Рыгора.
**Каталіцкія**: Ксавера, Францішка.

**4 снежня**
**Праваслаўныя**: Уводзіны (Увядзенне ў храм Божай Маці).
**Каталіцкія**: Барбары, Яна.

**5 снежня**
**Праваслаўныя**: Архіпа, Максіма, Пятра, Філімона.
**Каталіцкія**: Крыстыны.

**6 снежня**
**Праваслаўныя**: Аляксея, Макара, Рыгора, Фёдара.
**Каталіцкія**: Мікалая, Эміліяна.

КОНКУРСЫ

# Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне, шаноўныя!

У мінулы раз прапанавалася адгадаць, навошта вожыку яблык на спіне? **Юрый Юхневіч** лічыць, што такога не можа быць, гэта фантазіі мастакоў. **Аляксандр Кендыш** мяркуе, што тым самым вожык паказвае, што ў яго вострыя іголкі, а **Людміла Кендыш** сказала, што яблык на спіне ў вожыка для рэкламы. Версія **Андрэя Цітова**: яблык дапамагае вожыку перабіць уласны пах.

Правільна адказалі чацвёра: **Юрый Мінец, Андрэй Каспяровіч, Наталля Грыхуцік** і **Наталля Пушкарэвіч**. Яблычны сок дапамагае вожыку выводзіць паразітаў, якія могуць завесціся паміж іголак. Гэтую чацвёрку запрашаю ў рэдакцыю па білеты.

**НАСТУПНАЕ ПЫТАННЕ.** Многія ведаюць, што ў старажытнасці існаваў горад Спарта. Чым было забаронена займацца жыхарам гэтага горада?

Тэлефануйце 69667 у Маладзечне (апошні тэрмін 5 снежня, 17-00) і прыходзьце па запрашальны білет для дзвюх асоб на прагляд фільма ў маладзечанскім кінатэатры "Радзіма".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Кінатэатр «Радзіма»

**Лістапад–снежань**

**Вялікая зала**

30 лістапада – 2 снежня **"Хамелеон"**, прэм'ера, Францыя, камедыя 15-00 (льготны сеанс), 17-00, 19-00, 21-00

3–9 снежня **"Шакалад"**, ЗША-Францыя, рамантычная камедыя 15-00, 19-00

**"Як рыбка без вады"**, Англія, камедыя на відэасістэме 17-10, 21-10

3 снежня **"Джэнтльмены ўдачы"**, камедыя 13-00

**Для дзяцей**

2 снежня – **"Маленькая чараўніца"**

# ЗНАЁМСТВЫ

Спартыўны мужчына без шк/зв., в/а, пазнаёміцца з жанчынай да 40 год. 222310, Маладзечна-6, п/п V-ВН, №553791.

Нераздураны жанчынамі мужчына, віляйчанін, 39 год, пазнаёміцца з жанчынай. 220100, Мінск, а/с 20.

**Звярніце ўвагу**

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон 48**

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».
Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.
Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

Тэкст

Рэгіянальная газета

Прозвішча, імя, адрас (не для друку)

ЭКАЛОГІЯ

# Як жыве нашае будучае

20 лістапада ў свеце адзначаўся Усеагульны дзень дзяцей. Усім вядомая фраза: "Дзеці – наша будучае". А ў якім стане знаходзіцца нашае будучае ў Маладзечне?

На адной з сесій гарсавета адзначалася, што абсалютна здаровымі можна лічыць толькі 17% юных маладзечанцаў. Блага, калі параўноўваць, напрыклад, з Мар'інай Горкай, дзе гэтая лічба складае 30%. І не зусім блага, калі параўноўваць з Мінскам ці чарнобыльскімі раёнамі Беларусі, дзе, па дадзеных тамтэйшых эколагаў, няма ніводнага абсалютна здаровага дзіцяці!



Фота IREX/ProMedia.
**Кожны хоча дыхаць чыстым паветрам, але не ў кожнага ёсць процівагаз.**

Дзеці больш за дарослых бываюць на вуліцы, таму забруджванне атмасферы стаіць для іх у першых шэрагах негатыўных фактараў. Транспарт дае 65–80% небяспечных рэчываў у паветра. Але аб'язной шашы, як у Вілейцы, у Маладзечне няма, таму транзітныя, лішнія для нас аўтамабілі, мусяць ездзіць па цэнтральных, самых шматлюдных вуліцах горада.

Усе мы з урокаў геаграфіі ведаем, што асноўную колькасць дзён у нашых шыротах вецер дзьме з заходняга напрамку. Але менавіта на гэтым напрамку паміж горадам і чыгункай аж да Насілава размесціўся цэлы стос прамысловых аб'ектаў горада. Калі паглядзець на план, то амаль заўсёды на шляху ветру да нашых кварталаў стаіць нейкі прамысловы аб'ект. Пры гэтым, як ужо пісала "РГ", азяляненне ў нас складае 57% ад нарматыву.

Кожны год насельніцтва практыкуе веснавыя выпальванні лісця, травы, смецця. Пры гэтым у вогнішча ляцяць гумавыя і пластыкавыя вырабы, пры згаранні якіх утвараюцца дыяксіны. Гэта небяспечныя таксічныя злучэнні, якія вядуць да захворванняў нервовай сістэмы і органаў дыхання. Дыяксіны маюць вялікую малекулярную масу, таму сцелюцца каля паверхні зямлі. Значыць, асноўны іх "спажывец" – дзеці.

Вельмі небяспечныя для арганізма дзяцей і дарослых цяжкія металы. Па "стрэс-фактары" ім даюць 136 балаў. Параўнаем: для радыяцыі гэты паказчык складае 40 балаў, яна ў тры разы больш бяспечная. Цяжкія металы – гэта гальванічная вытворчасць, якая ёсць, напрыклад, на "Спадарожніку". Таму інспекцыя па ахове прыроды і накладае павышаныя патрабаванні да гэтай вытворчасці.

Для шматпавярховых дамоў актуальнае забруджванне літасферным азонам. На гэты параметр будаўнікі да апошняга часу ўвогуле не звярталі ўвагу.

Харчаванне насельніцтва – таксама асноўны экалагічны фактар. Але з-за малой пакупніцкай здольнасці ў нас парушаная сама структура харчавання. Людзі "націскаюць", у асноўным, на бульбу і сала (тлушчы і вугляводы) і адносна мала ўжываюць бялковых прадуктаў, рыбы, садавіны. Для ўласных дамоў з калодзежамі актуальнае нітратнае забруджванне вады. Па гэтай прычыне, як зазначыла **Рэгіна Вакуціна** з Мінскага абласнога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, на Вілейшчыне нават былі выпадкі смяротнага атручэння немаўлят, якіх паілі малочнымі сумесямі, разведзенымі ў калодзежнай вадзе ("Экалогія і права", №1–2 за 2000 год, ст. 15).

У школе дзеці зведваюць даволі вялікую псіхічную і эмацыянальную нагрузку. Між тым, навукова даказана, што калі чалавек добра адпачне ў выхадныя, ён павышае сваю працаздольнасць увесь наступны тыдзень на 5%. Але ў Маладзечне толькі адно добраўпарадкаванае месца адпачынку – Цэнтральны парк. Вядома, не ўсе дзеці, асабліва маленькія, маюць магчымасць кожныя выхадныя туды трапіць.

Дзеці заўсёды пакутуюць з-за пралікаў і недальнабачнасці дарослых. А стан іх здароўя – гэта, мабыць, адзіны паказчык, дзе нашаму гораду трэба раўняцца не на сталіцу, а на больш экалагічна чыстыя населеныя пункты. А 17% – гэта бал, які паставілі нам нашыя дзеці за сваю экалагічную і сацыяльную абароненасць.

**Алег БЯГАНСКІ.**

ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ



## Жэле шакаладнае

**1 л малака (вяршкоў), 100 г цукру, 2 лыжкі какавы, 1 лыжка жэлаціну, 200 г марожанага, ванілін, ягады з варэння.**

Жэлацін заліць гатаванай халоднай вадой на 30–40 хвілін, затым распусціць на паравой лазні. Ускіпяціць малако, дадаць какаву, разведзеную халодным малаком, цукар, ванілін. Зняць з агня і ўліць жэлацін, увесь час памешваючы. Калі загусцее, разліць у падрыхтаваны посуд, ахаладзіць. Перад падачай пакласці ў кожную порцыю марожанае, упрыгожыць ягадай з варэння.

## Напітак «Свежасць»

**2 апельсіны, 2–3 яблыкі, 100 г цукру, 1 бутэлька мінеральнай вады, лёд.**

Апельсіны і яблыкі памыць, нарэзаць тонкімі кружочкамі разам са скуркай, заліць сіропам, звараным з цукру і вады (1 шклянка), накрыць і пакінуць на 12 гадзін. Перад падачай уліць у сіроп ахалоджаную ваду. Пакласці ў шклянкі па кружочку апельсіна і яблыка, лёд, уліць сіроп з вадой, дапоўніць мінеральнай вадой.

## ПРОСТА АНЕКДОТ

– Вы лічыце, што аб'ява ў газеце некаму дапамагае?
– А як жа! Толькі даў аб'яву, што патрабуецца вартаўнік, мой магазін тут жа абакралі.

У магазіне:
– Дзяўчына, пакажыце мне, калі ласка, сокавыціскалку.
– Выбачайце, я неяк не вельмі моцная ў пантаміме.

НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

# Кім ты станеш?

*Кем ты станешь, маленький Серёжка,*
*Через двадцать, тридцать, сорок лет?*

Дзяніску было тры з паловай годзікі, калі быў дазволены сем'ям ваеннаслужачых уезд у ГДР да іх бацькоў і мужоў. Яго мама Нона Уладзіміраўна была цяжарная на 5-м месяцы. А муж сустрэць яе змог толькі ў невялікім гарадку пад Берлінам. Так што давялося ў такім складзе (дзіця ў праекце і вялізны чамадан з пажыткамі) праехаць шлях з Урала да Берліна цалкам самастойна. І перасадкі дзве ў Саюзе (Свярдлоўск, Масква), і прыгранічны горад Брэст, дзе цягнік замянілі, таму што ў прыгранічнай Польшчы чыгуначныя лініі былі іншыя. Але не было звычкі падаць духам пры сустрэчы з цяжкасцямі. Нона імкнулася да мужа, сын да бацькі.

Дзіця здзіўляла суседзяў па вагоне сваёй "выхаванасцю", як яны лічылі: адмаўляўся браць шакаладныя цукеркі ў чужых людзей, нічым не хваляваў маму, нават гульні ягоныя нікога не стамлялі. Вось ён бярэ свае валёначкі чырвонага колеру, устаўляе адзін у адзін пад вуглом і тлумачыць, што гэта самавар з трубой. Зараз ускіпіць вада і хлопчык будзе частаваць усіх чаем... Дзяніску прарочылі вялікае будучае.

– Нона Віктараўна! Сын ваш будзе геніем!

Так, памяццю ён здзіўляў ужо з 2-х год. На ёлцы ў Новы год чытаў на памяць байкі Крылова. А ў 5 год клапаціўся пра маленькую сястрычку, выхоўваў яе і вучыў. Аднойчы Нона з мужам паклалі дзяцей спаць і рызыкнулі пайсці ў кіно. Калі вярнуліся, убачылі замілавальную карціну: Дзяніска перабраўся да маленькай Ілоны ў яе пасцельку і моцна спаў, абняўшы сястрычку.

Сын і падрастаў такі ж добры, спагадлівы. Калі сям'я вярнулася ў СССР, ім даводзілася шмат пераязджаць, і ў дзіцячы садок Дзяніска не хадзіў. Нона Віктараўна доўга не атрымлівала нідзе работы, была хатняй гаспадыняй, расціла сваіх двух дзетак, умела іх песціць і ў той жа час не разбэсціць. А ў піянерскія лагеры яны мелі магчымасць ездзіць ад вайсковай часці, таму што бацька быў афіцэр. Пасля першай змены ў піянерскім летніку, дзе Дзяніс быў разам са сваёй чатырохгадовай сястрычкай, ён маме прывез падарунак: адразу ж запеў "Мы шли под грохот канонады" і, шчаслівы, уручыў ёй сваю пахвальную грамату "За ўдзел у мастацкай самадзейнасці і прыкладныя паводзіны".

Праз дзесяць год сын таксама радаваў сваю маму цэласнасцю жыцця падлетка. Ёй здавалася, што перад ім адчыненыя ўсе дзверы, – было б толькі жаданне ісці ў гэтую светлую далеч. Зімой і летам ён на прыродзе бавіць кожную свабодную гадзіну. З ім верны сябар Саша, лёгкі на пад'ём юнак. Адна з зім была суровая і снежная. Улёгся за горадам цвёрды снежны наст, і хлопчыкі на лыжах адправіліся ў паход па заснежанай лесаахоўнай піхтавай паласе. На прывале пяклі бульбу, пілі гарачы чай з кацялка, задаволеныя сабой да самай глыбіні душы.

А летам з тым жа Сашам на лодцы, якую пабудавалі з двух лістоў фанеры, хацелі даплыць да вытокаў або вусця малой рэчкі. Але такая была сіла іх фантазіі, што, калі апынуліся нагамі на пясчаным дне, хутка справіліся з канфузам і бадзёра працягвалі шлях пешшу па дне ракі пад дружны рогат купальшчыкаў.

А праз дваццаць год?

Вышэйшая навучальная ўстанова скончаная, але ўзніклі праблемы са здароўем.

З недалечанага насмарку развіўся цяжкі і, галоўнае, прыкры гаймарыт. Пры ім чалавек можа адчуваць сябе няшчасным толькі з-за адсутнасці насоўкі ці хаця б папяровых сурвэтак. Гэта дробязь.

А вось калі маці прыехала да яго, каб пабачыцца (ён ужо служыў у арміі), даведалася, што сын выпівае. Прыйшоў канец добранадзейнасці сямейнага жыцця. Ілюзіямі зрабіліся пра будучае мары. Зразумела, Дзяніс працаваў. Завёў сям'ю. Калі быў цвярозы, быў высакародны, і сумленне ў яго было. Але, як дамоклаў меч, над галавой Ноны Віктараўны вісела перспектыва развіцця ў сына хранічнага алкагалізму, таму што ў пакаленні яго бацькі гэтая хвароба ўжо была.

Што ж будзе праз сорак год?! Апусціцца, пойдзе на дно? Ці не вытрымае яго здароўе, і сын заўчасна пойдзе з жыцця, "не бросивши векам ни мысли плодотворной, ни гением начатого труда"? Нямала рабілася спробаў пазбавіцца ад неадольнай цягі да спіртнога, але ўсё было дарэмна.

**Галіна ЧАКАСІНА.**

## ■ КРЫЖАВАНКА

Ірына САХАЦКАЯ.



**Па гарызанталях:** 1. Парыў, гарачнасць. 4. Удары па жывым целе, збіванне. 7. Паўднёвае дрэва сямейства ружакветных з плодам, падобным на яблык. 8. Нясkладная, невыразная мова, уласцівая дзецям. 9. Вялікі шырокі нож. 10. Біяполе. 11. Роўна зматаныя або навітыя на што-небудзь ніткі, дрот і пад. 14. Вуда для лоўлі рыбы са дна вадаёма. 17. Верхняе хатняе або рабочае адзенне. 20. Самец свінні. 23. Нясучая частка машыны, станіна. 24. Народная гульня ў мяч. 25. Спартыўная прылада для кідання – металічнае ядро з тросам. 26. Графічны знак для запісу гукаў музыкі. 27. Месца касьбы. 28. Усё старадаўняе, што ўзнаўляе старое, мінулае.

**Па вертыкалях:** 1. Разнавіднасць буйнога і тлустага селядца. 2. Неабходнасць у кім-небудзь, чым-небудзь. 3. Адкрыты жолаб для сцёку вады. 4. Урачысты агляд (войскаў, спартсменаў). 5. Плецены з раменных палосак арапнік або вітая з ільну пуга. 6. Бліскучая кропка. 12. Воз у Азіі. 13. Горад, буйны чыгуначны цэнтр у Віцебскай вобласці. 15. Прыродная мінеральная фарба жоўтага або чырвонага колеру. 16. Напітак з зярнят кафейнага дрэва, а таксама заменнік такога напітку. 17. Пра чалавека, які рабалепствуе, падхалімнічае перад кім-небудзь. 18. Частка паверхні зямлі. 19. Форма псіхічнага расстройства, якая выяўляецца ў бессвядомых дзеяннях. 20. Насякомае-крывасос. 21. Майстэрства тэатральнага танца. 22. Тое, што злучае, служыць для сувязі.

### Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №47

**Па гарызанталях:** 1. Вобад. 4. Скала. 6. Ліяна. 9. Арфа. 10. Рука. 11. Вушак. 13. Імжа. 14. Абед. 15. Кокан. 17. Наган. 20. Абрус. 24. Віно. 25. Зімародак. 26. Прас. 29. Эстэт. 31. Салат. 34. Лабан. 37. Рыза. 38. Рэха. 39. Маска. 40. Табу. 41. Вера. 42. Атара. 43. Міска. 44. Нанка.

**Па вертыкалях:** 1. Важак. 2. Басяк. 3. Даліна. 4. Саван. 5. Аркан. 6. Лайдак. 7. Янтар. 8. Абрыс. 12. Шаг. 16. Онікс. 18. Агава. 19. Абора. 21. Увага. 22. Цір. 23. Бар. 27. Атрута. 28. Платан. 29. Этыка. 30. Танга. 31. Самум. 32. Лес. 33. Трава. 35. Батон. 36. Німфа.

## Гараскоп 3 – 9 снежня



**Авен** (21.03–20.04)

Зусім нетыповая сітуацыя складзецца вакол 3-га снежня. Вы можаце больш страціць, чым набыць у гэты перыяд, калі будзеце настойваць на сваёй пазіцыі. Звярніце ўвагу на хваробу кагосьці са старэйшых у вашай сям'і. Паклапаціцеся пра яго.



**Цялец** (21.04–21.05)

3-га снежня абвострыць жаданне імгненных пераменаў, і можна «наламаць дроў». 5-га снежня ўдалыя і лёгкія ў рэалізацыі будуць дыпламатычныя крокі – заплануйце на гэты дзень перамовы. Вы знойдзеце доўгатэрміновых інвестараў.



**Блізняты** (22.05–21.06)

3-га снежня – лёгкі экзамен або не надта небяспечны выклік да кіраўніцтва «на ковёр». 5-га снежня азнамяне сабой пачатак гарманізацыі стасункаў, асабліва ў дзелавой сферы. Вам могуць даручыць адказнае заданне.



**Рак** (22.06–23.07)

3-га снежня ўзрадуюць звесткі і навіны здалёк. Пачынаючы з 5-га снежня – выдатная фізічная форма і эмацыянальны ўздым. Магчыма, варта звярнуць на гэты стан самую пільную ўвагу, каб знайсці яго вытокі і ўтрымаць яго.



**Леў** (24.07–23.08)

Да 5-га снежня паспрабуйце ўгаварыць сябе, любімага, ацэньваць чужыя дасягненні не як перамогі над вамі, а як стымул да хутчэйшага развіцця. Раім курсы па павышэнні камунікацыйных навыкаў.



**Дзева** (24.08–23.09)

3-га снежня паднясе шэраг нечаканых падзей, якія не нясуць нічога дрэннага, акрамя набыцця новага досведу. Перыяд 5–9 снежня будзе насычаны асаблівай атмасферай шчасця і задавальненняў. Калі вы закаханыя, то можна толькі пазайздросціць. Вы атрымаеце ўсё, што жадалі.



**Шалі** (24.09–23.10)

Заставайцеся асцярожныя з 3-га па 5-га снежня. Магчымае з'яўленне на гарызонце людзей, якіх вы пазбягалі па тых ці іншых прычынах. З 5-га снежня, пасля таго, як «выпрабаванне» будзе скончанае, вы атрымаеце выдатны сюрпрыз ці падарунак.



**Скарпіён** (24.10–22.11)

Памятайце пра асцярожнасць (асабліва ў сферы фінансаў) 3-га снежня. А лепш, наогул, зрабіце сабе разгрузачны ад работы дзень. З 5-га снежня пачнецца новы эканамічны ўздым. Нават калі вы не бізнесмен, прэміі або павышэнне аклада не за гарамі.



**Стралец** (23.11–21.12)

3-га снежня можа паднесці шэраг сюрпрызаў, таму будзьце падкрэслена ветлівыя з тымі, хто не можа кантраляваць уласныя эмоцыі. З 5-га снежня рэзка палепшыцца псіхафізічны стан, быццам, адкрыецца другое дыханне.



**Казярог** (22.12–20.01)

У вас – перыяд унутранай работы і фарміраванне новага ўспрымання жыцця. Нічога звышновага не прынясе і будучы тыдзень. Уражанне, што вам прадоўжылі «выпрабавальны» тэрмін. Карыстайцеся ім!



**Вадалей** (21.01–19.02)

3-га снежня могуць цалкам ператасавацца ўсе былыя ўяўленні пра групавую і індывідуальную творчасць. Магчымы пачатак актыўнага пошуку партнёраў. З 5-га снежня могуць адкрыцца новыя крыніцы фінансавання і непрадбачаныя сустрэчы.



**Рыбы** (20.02–20.03)

5-га снежня прынясе нечаканае задавальненне прафесійнымі поспехамі, а магчыма, і значны матэрыяльны прыток. Што тычыцца асабістых (а яшчэ складаней, любоўных) стасункаў, то лепш не разбірацца з імі, вас могуць проста «пасласць»...




Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах.
Тыраж **8190 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска).
Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная.
**№48 (345) 30.11.2001.** Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №.
Падпісана ў друк у 13.00 29.11.2001

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 53935, 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»